# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 36 (50)* *12—18 лістапада 1993 года* *Кошт 25 рублёў*

**З. ПАЗЬНЯК:** «Да характарыстыкі палітычнага становішча ў краіне».

**«ГУЛЬНІ З ПЕРААПРАНАНЬНЕМ».** Ці можна наогул гаварыць аб нейкім адраджэньні?

**«ЗЛАЧЫННАСЬЦЬ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА,** але да тэрарызму пакуль не дайшло».

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## Прысутныя на мітынгу 6 лістапада патрабавалі адстаўкі ўрада й датэрміновых выбараў

Дзякуючы шматлікім улёткам, што былі заўчасна расклееныя ў розных раёнах гораду, людзей на зарганізаваны 6 лістапада дэмакратычнымі сіламі мітынг на пляцы Леніна сабралося багата. Прамоўцы,— А. Васькевіч, А. Пяткевіч, А. Астроўскі, А. Гаркоў, М. Маркевіч ды іншыя — не заклікалі прысутных да гвалту, а наадварот, тлумачылі магчымыя цывілізаваныя шляхі выратаваньня нашай дзяржавы і яе грамадзтва з зацяжнога эканамічнага крызісу.

Аднагалосна была прынята рэзалюцыя з патрабаваньнем адстаўкі ўрада В. Кебіча і правядзеньня датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет не пазьней сакавіка 1994 года.

**Г. У.**

**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**



## Пагрозы з далёкім прыцэлам

Савет Міністраў звярнуўся праз сродкі масавай інфармацыі са зваротам «Да грамадзян Рэспублікі Беларусь». («Звязда» ад 6 лістапада 1993 г.).

Скажам так: не вытрымалі нервы ў шаноўных міністраў.

Аб чым і сведчыць узгаданы зварот. Чаго там больш — страху за сваё крэсла ці крывадушша? Прыціснуты да сценкі эканамічным крахам, немагчымасьцю вывясьці краіну з глыбокага крызісу, амаль поўным недаверам уласнага народа,— урад замест адстаўкі пачаў лямантаваць аб небясьпецы з боку БНФ, «Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў», кіраўнікоў шэрагу прафсаюзных і апазіцыйных сіл.

Цікавы тэкст. Яшчэ нядаўна той жа ўрад пасміхаўся: якая апазіцыя, на Беларусі ўсё спакойна, сытуацыя кантралюецца. І тут — поўнае прызнаньне сіл, якія супрацьстаяць габінэту В. Кебіча. А яны — гэтыя сілы — неаднаразова выказваліся за несілавыя, а парляменцкія метады палітычнай барацьбы. Гэта ў сьценах Вярхоўнага Савета. На вуліцы і плошчы выходзяць толькі напярэдадні пачатку сесіі таго ж Вярхоўнага Савета.

Аднак Савет Міністраў акрамя ляманту прымяняе забароненыя дэмакратычнай практыкай прыёмы. Крытыку ў свой адрас называе пагрозамі, заклікі прыйсьці да Дома ўраду, каб выказаць сваю нязгоду з ягонай палітыкай — спроба ні стварэньня баявых дружын, узброеных выступленьняў. І зусім ўжо бязглуздзіца: абвінавачваюць сваіх апанентаў у зняважлівых выпадах у адрас народа.

Ва ўсім сьвеце не забаронена крытыкаваць урад, патрабаваць яго адстаўкі, калі ён не спраўляецца са сваімі абавязкамі. На Беларусі ў гэтым бачаць крамолу, жаданьне апазіцыі «любымі сродкамі захапіць уладу».

Для чаго спатрэбіўся гэты вэрхал якраз прытэрмінаваны да сэсіі Вярхоўнага Савета? Па-першае, засцерагчыся ад крытыкі, якая, безумоўна, прагучыць на сэсіі з боку прадстаўнікоў—дэпутатаў БНФ, БСДГ і інш.

Па-другое, недвухсэнсоўна гаворыцца аб прымяненьні сілы, папярэджваецца, што будзе дадзены «самы жорсткі і рашучы адпор» тым, хто захоча адабраць уладу ў цяперашняга ўрада. Хто ведае, можа дэпутаты цяпер цярпець не будуць і дадуць адстаўку міністрам. А тыя палічаць такую абразу за спробу дзяржаўнага перавароту і ўвядуць у парлямэнт войскі: «Караул устал!..» Ці наогул аб 'явяць аб ваенным становішчы. Не здарма ж у звароце прыгадваюцца «крывавыя падзеі ў Маскве».

Выклікае здзіўленне стары матыў, калі складальнікі звароту па-ранейшаму заклікаюць беларускі народ «захаваць у рэспубліцы грамадзянскі мір, спакой і парадак». Атрымай свае 25 даляраў у месяц (у Расіі гэтая лічба ўжо даходзіць да 100, Польшчы — да 300 і г. д.) і маўчы, галей, пераўтварайся ў жабрака. А ўрад «напоўніць рэальным зместам дзяржаўны сувэрэнітэт Беларусі», «забяспечыць дастойнае жыцьцё для людзей», «дэмакратычныя пераўтварэньні ў грамадзтве».

Як часцяком бывае ў такіх выпадках, Савет Міністраў клянецца ў захаваньні канстытуцыйнага парадку, «будзе абараняць яго ўсімі наяўнымі... сіламі і сродкамі».

Відаць, што ўрад збанкрутаваў на ўсе сто працэнтаў, калі звяртаецца да пагроз на адрас свайго народа. Ён завёў краіну ў эканамічную і сацыяльную бездань, пратаптаўшыся на месцы і чакаючы «паставок» апошнія тры гады. Цяпер жа, пераканаўшыся, што ўсе захады ўжо не дадуць вынікаў, вырашыў вярнуцца да практыкі часоў ваеннага камунізму — усе стаяць пад надзейнай аховай штыкоў, на работу і з работы — строем, прычым зарплата будзе такой, якую ўстановіць той жа Саўмін.

Ёсьць і яшчэ адно меркаваньне. Усё гучней вядзецца гаворка пра новыя выбары ў будучым годзе. А гэта значыць, што будзе абраны і новы склад Савета Міністраў. Ніхто з цяперашніх кіраўнікоў, за рэдкім выключэньнем, абраны не будзе. Прыйдзецца шукаць іншага хлеба. Вось гэтага і спалохаліся ўрадоўцы, і гатовы бараніцца ўсімі «сіламі і сродамі», каб пакінуць нязменным той жыццёвы лад, які яны самі стварылі для сябе.

Небясьпечна гэта, вельмі небясьпечна... Для нас з вамі.

**В. КАВАЛЕЎ.**

## Справаздачны сход

Напрыканцы кастрычніка сябры гарадзенскай філіі БСДГ правялі справаздачны сход. На сходзе былі вызначаны далейшыя накірункі дзейнасьці філіі. Галоўнай дзеяй ў гэтым накірунку вызначана кансалідацыя БСДГ з дэмакратычнымі партыямі, плынямі і рухамі Гарадзенскага раёна. Асаблівая ўвага надавалася кантактам з мясцовай управай БНФ. Зазначалася, што неабходнасьць аб 'яднаньня з БНФ у адзін дэмакратычны блёк выклікана палітычнай сітуацыяй у дзяржаве.

Прамоўцы выказвалі пажаданьні, каб сябры філіі актыўней удзельнічалі ў сродках масавай інфармацыі й гэтым самым спрыялі б папулярнасьці ідэй БСДГ у рэгіёнах. Лейтматывам прагучала пажаданьне — паглыбляць прыязныя кантакты з кіраўніцтвам вытворчых прадпрыемстваў і з камэрцыйнымі структурамі на Гарадзеншчыне.

Пасьля дыскусіі пра надзённае жыцьцё й высьвятленьня некаторых спрэчных пытаньняў была ўнесена прапанова абраць старшыню філіі. Паўторна, на гэты пачэсны пасад абраны спадар М. Патрэба.

**І. МАГІЛЕВЕЦ.**

## Створана суполка БНФ «Адраджэньне»

Днямі ў вёсцы Капцёўка Гарадзенскага раёну актывістамі беларускага адраджэньня створана суполка БНФ. На мэцэ суполкі — згуртаваньне аднамысьнікаў вакол ідэі беларускай дзяржаўнасьці, стварэньне раённай рады і каардынацыйнай дзейнасьці прыхільнікаў Народнага Руху падчас маючых адбыцца выбараў вясной 1994 года.

На жаль, сход давялося праводзіць без дазволу мясцовых уладаў. Але, нягледзячы на забарону, людзей прыйшло шмат. Пасьля невялікай нарады й дакладу сябра БНФ Міколы Баўсюка 11 чалавек добраахвотна ўступілі ў шэрагі БНФ. Напрыканцы паседжаньня была прынята рэзалюцыя аб зьяднаньні новаўтворанага аб 'яднаньня з існуючымі суполкамі БНФ на Гарадзеншчыне, а таксама быў абраны старшыня рады, ім стаў спадар Віктар Рыжко.

**Г. У.**

## *ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ*

### Пераходы пад час сьвята

Згодна двухбаковага пагадненьня кіраўніцтва Беластоцкага ваяводзтва Польшчы з мясцовымі ўладамі Гарадзенскай і Берасьцейскай вабласьцей на восеньскае сьвята памінаньня продкаў «Дзяды» часова былі адкрыты звыш дзесяці дадатковых мытных пераходных пунктаў.

Для таго, каб без перашкод перасекчы мяжу, неабходна было мець пры сабе пашпарт й даведку аб тым, што па тэрыторыі суседняй дзяржавы ёсьць магілы продкаў.

Пад час сьвятаў дадатковымі пераходамі скарысталі звыш 4 тысячаў чалавек.

### Рух дазволены з запаленым сьвятлом

З першага лістапада на тэрыторыі Беластоцкага ваяводзтва падчас восеньскага-зімовага пэрыяду ўведзены абавязковы рух усіх відаў транспанту з запаленым бліжнім сьвятлом. Таксама пастанова абавязуе кіроўцаў замыкаць на сабе абарончы пас.

Гэта толькі першыя крокі дарожнапаставой службы ў пошуках сродкаў для зьніжэньня колькасьці дарожных выпадкаў. Міліцыянты й надалей будуць шукаць іншыя эфэктыўныя шляхі, павышаючыя бясьпеку руху. Як сьведчаць вынікі статыстыкі — летась такія прэвэнтыўныя меры перасьцярогі на 20% зьнізілі колькасьць трагічных выпадкаў на шляхах Беласточчыны ў гэтую небясьпечную для руху пору года.

### 28% ад мінімальнай рэнты

Днямі на тэрыторыі Польшчы пачалі дзейнічаць пастановы ўраду аб падвышцы рэнты для цяжарных і кормячых маці. Падвышку будуць атрымліваць кабеты з чацьвёртага месяца цяжарнасьці да народзін, і далей да шасьці месяцаў выхаваньня дзіцяці.

Дарэчы, падвышка не павінна перавышаць 28% мінімальнай рэнты.

**Г. У.**

# *ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА*

# Да характарыстыкі палітычнага становішча ў краіне

**ДАКЛАД З. ПАЗЬНЯКА НА КАНФЭРЭНЦЫІ НЕКАМУНІСТЫЧНЫХ І АНТЫІМПЭРСКІХ СІЛАЎ НА БЕЛАРУСІ 16 КАСТРЫЧНІКА 1993 г. У МЕНСКУ**

Паважаныя спадарыні і спадары.

Становішча ў дачыненьнях улады і ў эканоміцы, якое склалася цяпер на Беларусі, бярэ свой пачатак яшчэ з 1990 года. Менавіта з той пары, калі, абапіраючыся на антыдэмакратычны закон пра выбары і валодаючы паўнатой таталітарнай улады, кіруючая камуністычная наменклатура выйграла выбары. Стала зразумелым, што па параўнаньні з суседнімі краінамі, дзе наменклатура не атрымала такой татальнай перамогі, Беларусь правальваецца і асуджана на непазьбежную страту ўсіх сваіх перавагаў і стартавых магчымасьцяў, на адставаньне і закрыцьцё самастойнай перспектывы.

У выніку дзейнасьці наменклятурнага ўрада і Вярхоўнага Савета Беларусь застаецца па сёньняшні дзень у становішчы «поўдзяржавы»; рынкавыя рэформы затарможаныя, пытаньне з зямлёй і праблема замежных інвестыцыяў не вырашаная, падаткавая сістэма — антырынкавая, антывытворчая, антыэканамічная, сацыяльная палітыка прымітыўная, культура ў стане занядбаньня, але самае галоўнае праваленая фінансава-крэдытная палітыка. Фактычна дзяржаўнай палітыкі і дзяржаўнага падыходу тут ў фінансавай галіне прынцыпова ніколі не было. Усе неабходныя, нават элементарныя прапановы Апазіцыі па ўпарадкаваньні фінансава-крэдытнай сістэмы, падрыхтоўцы да ўводу нацыянальнай валюты і г. дг. адкідвалі адразу, альбо з палітычных меркаваньняў, альбо па прычыне непрафесійных дэпутатаў. Дзяржава без сваіх паўнавартасных грошай нармальна існаваць ня можа, эканоміка не дзейнічае, прыватызацыя не магчымая. Тым ня менш насуперак усялякаму здароваму сэнсу і грамадзкай неабходнасьці і ўрад, і дэпутацкая большасьць Вярхоўнага Савета зрабілі і робяць усё, каб не дапусьціць увядзеньня беларускай валюты, паставіць на ногі эканоміку і дзяржаву.

Быў прыкладзены максімум высілкаў, каб перашкодзіць прыняцьцю канструктыўных прапаноў дэпутацкай Апазіцыі аб паліўна-энергетычным забесьпячэньні (стварэньня другіх і трэціх крыніц пастаўшчыкоў, пакдлючэньня камерцыйных структураў і г. д.). У выніку ўжо летам 1993 года Саўмінам быў створаны паліўна-энергетычны голад на Беларусі. Выхаду з яго ўрад ня бачыць, хоць і вымушаны быў часткова пайсьці на ўступкі патрабаваньням Апазіцыі — адмяніць пошліны і ліцэнзіі на ўвоз нафты і дазволіць яе ўвозіць камерцыйным структурам.

Стала вядома, што плата Расеі за газ пакрываецца ў валюце за кошт заходніх крэдытаў, якія транжырацца не па прызначэньні. У крэдытнай палітыцы ўрада, як і ва ўсім астатнім, дамінуе падыход дачаснасьці і безадказнасьці. (Аддаваць жа пазыкі прыдзецца іншаму ўраду). Я ўжо не кажу пра тое, што ніякай платы з Расеі за перапампоўку ёй газу і нафты праз нашую тэрыторыю і праз нашыя трубаправоды былы ўрад БССР не бярэ, зрэшты як і за карыстаньне нашымі дарогамі, паветранымі шляхамі і г. д.

Вынікі такой недзяржаўнай, непрафесійнай адміністратарскай палітыкі дрэнныя. Беларусь страціла і прадаўжае губляць сваю маёмасьць, каштоўнасьці, капітал, фактычна ліквідавана эканамічная стартавая перавага Беларусі, якая існавала ў 1991 годз ў параўнаньні з нашымі суседзямі. Не праведзеная структурная перабудова эканомікі ў інтарэсах нашага грамадзтва. Адсутнасьць нацыянальнай валюты, рынкавых рэформаў, прыватызацыі, нармальных зямельных дачыненьняў і дачыненьняў уласнасьці, плюс нічым не абмежаванае раскраданьне дзяржаўнай маёмасьці і нацыянальных багацьцяў, рабаўнічы для Беларусі клірынг і разьлікі з Расеяй, навязаныя расейскім кіраўніцтвам і прынятыя беларускім урадам,— усё гэта прывяло да таго, што нашая дзяржава за два гады такой дзейнасьці ўраду і дэпутацкай большасьці Вярхоўнага Савету скацілася з перадавых пазіцыяў і стала адставаць нават ад Расеі. Я ўжо не кажу пра краіны Балтыі, якія цяпер мінаюць першы рубікон цяжкасьцяў фармаваньня рынкавай эканомікі і пасьпяхова крочаць да нармальнага эўрапэйскага існаваньня.

Матывы антынацыянальнай палітыкі кіруючай наменклятуры і паводзінаў ураду добра вядомыя. Імкнучыся захаваць сваю ўладу, сумясьціць несумяшчальнае — адміністрацыйную сістэму і адміністрацыйную эканоміку з рынкам і не ставячы ніякіх пэрспэктыўных дзяржаўных задачаў (акрамя, вядома, задавальненьня ўласных інтарэсаў), старое кіраўніцтва Беларусі зайшло ў тупік, стала банкрутам, але раптам і са страхам усьвядоміла, што СССР больш няма, што на Маскву ўжо не спашлешся і адказваць перад грамадзтвам за ўсе свае дзеяньні, за дрэнныя вынікі сваёй дзейнасьці і квазіпалітыку прыйдзецца ім самім. Ім і нікому больш.

Гэта адна з прычынаў (бадай асноўная) капітулянцкага павароту ўраду і большасьці белкамнаменклатуры ў бок Расеі. Другой прычынай стала ажыўленьне камуністычнага, імперскга рэваншызму ў Расейскай Федэрацыі, дзе гэтую палітыку ўзначаліў былы расейскі Вярхоўны Савет. З лета 1992 года мы мелі магчымасьць назіраць, як адпрацоўваўся расейскі камуністычны цэнар на Беларусі. Рэарганізуецца структура Саўміна па ўзору ЦК КПБ. Там утвараюцца розныя ўпраўленьні і аддзелы, павялічваецца штат чыноўнікаў і саветнікаў з ліку народных дэпутатаў пракамуністычнай арыентацыі, потым зьяўляюцца нават дзяржсакратары накшталт былых сакратароў ЦК. У выніку міністры, зацьверджаныя Вярхоўным Саветам, апынуліся ў падначаленьні гэтых нелегітымных структураў і асобаў. Савет Міністраў перастаў быць Саветам міністраў, перастаў лічыцца легітымным урадам.

Наступны крок. Былыя палітрукі, што атрымалі пасады ў гэтым «структурным урадзе», пачынаюць па прыкладу краінаў Балтыі і Масквы ствараць грамадзкае апірышча кіруючай наменклатуры — нешта накшталт «інтэрфронта», Каардынацыйны Камітэт, перайменаваны потым у «Народное движение», куды ўвайшлі ўсе камуністычныя і пракамуністычныя арганізацыі, праімпэрскія фантомы, так званыя баталісты, марыністы, яцьвягі і, як паведалялі, нават скіфы і готтентоты. Зразумела, што ўсё гэта мішура для прыкрыцьця камуністычных арганізацыяў, каб свабодней было манеўраваць ураду.

У гэты ж час па адпрацаваным у іншых месцах сцэнару зьяўляецца і пачынае раптам узмоцнена паўтарацца сьвярджэньне пра неабходнасьць двухмоўя. Дарэчы, з усёй камуна-імперскай палітыкі (як і іншыя метады зьнявагі мовы) гэты прыём найбольш подлы, бо вядзе да абавязковага расколу нацыянальнага грамадзтва і стварае ўмовы для грамадзянскай вайны.

У гэты ж час восеньню на сесіі Вярхоўнага Савета пачынаюцца першыя нападкі на нейтралітэт і зьневажэньне дзяржаўных гістарычных сімвалаў Беларусі. Выказваюцца думкі аб пагрозе нападу блоку НАТА на Беларусь і аб неабходнасьці ўступаць у ваенны саюз і ў калектыўную бясьпеку з краінамі СНД. 29 кастрычніка нападкамі на закон пра грамадзянства, зьяўляюцца імкненьні да рэвізіі прынятага заканадаўства, скасаваньня дэмакратычных палажэньняў. Пачасьціліся кантакты з расейскімі камуністамі, ставіцца пытаньне аб скасаваньні белавежскіх пагадненьняў, аб канфэдэрацыі Беларусі з Расеяй, аб зьняцьці Старшыні Вярхоўнага Савета як аднаго з удзельнікаў пагадненьня ў Віскулях.

Перамога Ельцына на рэфэрэндуме ў Расеі ў красавіку 1993 г. на нейкі момант прыпыніла рэваншысцкую актыўнасьць на Беларусі. Але ўжо ў травені стала зразумела, што расейскія чырвона-карычневыя экстрэмісты разам з Вярхоўным Саветам Расеі ўзялі кірунак на рашучыя і крайнія сілавыя дзеяньні, дзе Беларусі рыхтавалі ролю камуністычнага плацдарма маскоўскіх бальшавікоў і імпэрыялістаў.

Падзеі разгортваліся даволі планамерна. Рыхтавалася агульная акцыя ў Расеі і Беларусі па абмежаваньні прэзідэнцкай улады, рэанімацыі СССР і ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Пра гэта галасна сталі гаварыць дэпутаты пракамуністычнай большасьці; яны ўступаюць у адкрыты хаўрус з Хасбулатавым і расейскімі экстрэмістамі, ўдзельнічаюць у правакацыйным кангрэсе камуністычных сілаў у Менску дзе зьневажаецца наша дзяржава і прымаюцца рэзалюцыі ў якасьці грамадзкіх аргументаў для будучых урадавых і палітычных рашэньняў. Адчуваецца стаўка на сілу. Сыплюцца пагрозьлівыя і прэтэнцыёзныя заявы.

А што ўрад Беларусі? Урад спрыяе ўсяму гэтаму шабашу, забараняе беларускія дэмакратычныя мерапрыемствы і, што ўжо зусім фантастычнае, нават адмаўляецца ад нацыянальнай гісторыі беларускага народа, пра што засьведчыў у сьпецыяльнай заяве. Старшыня Савета Міністраў Кебіч у гэты час публічна ахайвае СНД, раскайваецца ў белавежскіх пагадненьнях, выступае за аднаўленьне Саюза, за дзяржаўную інтэграцыю з Расеяй. Разам з Чарнамырдзіным і Кучмай прапаноўвае заключыць то чарговы «эканамічны саюз», то ўвайсьці ў нову рублёвую зону, то падпарадкавацца расейскаму рублю, расейскаму банку, расейскім законам, расейскаму бюджэту і «суверэнна» існаваць разам з Расеяй.

Апошні план абазначае не што іншае, як поўную ліквідацыю беларускай дзяржаўнай незалежнасьці, праграмаваньне поўнага разбурэньня нашай эканомікі, выпампоўваньня рэсурсаў, маёмасьці і капіталу, згортваньне беларускага бізьнесу і прадпрыймальніцтва і падпарадкаваньне іх расейскай эканамічнай мафіі.

Тое, што ліквідацыяй дзяржавы займаецца ўрад дзяржавы, выглядае дзіўным абсурдам, непраўдападобнай заявай. Але тым не менш гэта факт рэчаіснасьці.

1991 год паказаў, што беларуская кіруючая наменклятура, бадай што, мацней ненавідзіць Ельцына, чым свой дзяржаўны суверэнітэт. Гэта, як ні дзіўна, адыграла нават пэўную станоўчую ролю на першым этапе наменклятурнай разгубленасьці. Але як жа будзе цяпер пасьля прылюднага і агрэсіўнага засьведчаньня свайго нешанаваньня да дзяржавы і яе суверэнітэту? Павольна, цяжка, са скрыпам, але рынкавыя рэформы ў Расеі ўжо ідуць і нават даюць некаторыя таварныя вынікі. 72 працэнты гандлю нафтай, належыць расейскім камерцыйным структурам. Гэты працэнт будзе павялічвацца. Тое ж здарыцца ў іншых расейскіх галінах гандлю і эканомікі. З кім жа і як будзе тады гандляваць беларускі Саўмін на сваім дзяржаўна-адміністрацыйным востраве, тым больш што сто раз перад усім заявіў: «Без России нам нельзя». На адміністрацыйным узроўні гандаль і дачыненьні ўжо не атрымаюцца. З расейскімі камэрцыйнымі структурамі? Калі дзяржава гандлюе з камэрцыйнымі структурамі, вынік вядомы і, дарэчы, ва ўсім сьвеце ён аднолькавы — карупцыя дзяржаўных функцыянераў і рабаваньне нацыянальнага багацьця. Крах наступіць вельмі хутка, бо эканоміка ў такіх варунках проста спыніцца. Пайсьці па шляху рынкавых рэформаў? — Нельга паступіцца прынцыпамі і ўвогуле «как тогда насчет государственного строя?» Дый адсталі ўжо ад усіх на некалькі гадоў. Пайсьці здацца ў Расею? Ужо страшна — там Ельцын. Іншая справа, праўда, спадару Шушкевічу, той гатоў цяпер здавацца «сябру» нават падскокваючы.

Не ведаю, якія варыянты выхаду з урадавай бязвыходнасьці могуць прыйсьці ў галовы наменклатурным урадавым адміністратарам, але, мяркую, што толькі не варыянт асэнсаваньня ўласнага банкруцтва і адстаўкі, бо не такія яны па прыродзе, каб гэтакія крокі рабіць. Я не сумняваюся, што калі іх не папрасіць, то яны застануцца на сваіх пасадах нават у стадыі поўнага паралічу, калапсу і клінічнай сьмерці.

Тым часам гісторыя дае Беларусі чарговы шанс выйсьці на сваю дарогу. Часу адпушчана некалькі месяцаў — пакуль Расея разьбярэцца са сваімі выбарамі. Потым можна чакаць усяго: і дзікага мафіёзнага лібэралізму, вынікі якога мы адчуваем на сабе, і чарговай унутрырасейскай канфрантацыі, і войнаў на яе межах, і нават шырокамаштабнага ваеннага канфлікту. Але што б там не было, Расея, разабраўшыся з уладай і незалежна ад характару ўлады, будзе надалей працягваць сваю экспансіяніскую геапалітыку. Дачыненьні Расейскай імперыі да нашай дзяржавы складваліся стагоддзямі і сэнс іх ніколі не зьмяняўся. Гісторыя дае нам зноў шанс умацавацца. Яна сьведчыць, што трэба сьпяшацца.

Калі пры ўладзе застанецца гэты антынацыянальны ўрад, адзін з магчымых варыянтаў разьвіцьця падзей будзе заключацца ў тым, што расейскае кіраўніцтва цяперашняе і будучае падтрымаюць і ўрад Кебіча, і гэты Вярхоўны Савет. Няхай сабе кансервуюцца на Беларусі адміністрацыйна-камуністычны запаведнік, маўляў, вашая сувэрэнная справа. Хай гіне, развальваецца беларуская эканоміка, марнуюцца рэсурсы, бяднее народ, расьце зьнешні доўг, хай пануе намеклятура. Дадуць ім, чаго тыя па прывычцы папросяць — нафты і газу (больш жа атрымліваць няма адкуль, не паклапаціліся), а потым у патрэбны час, дзе-небудзь перад зімой, павядуць жорсткую палітыку. На піск не будуць зьвяртаць увагі — няма валюты, расплочвайцеся нафтаправодамі, заводамі, чыгункамі, лясамі, вадасховішчамі і г. д. Спадары ШушкеБічы спусьцяць усё, можна не сумнявацца. І не трэба будзе ніякіх палітычных рашэньняў, акупацыяў, запальваньня дамовай вайны. Ціха і непрыкметна беларускі народ перастане быць уласьнікам сваёй маёмасьці і гаспадаром на сваёй зямлі і ўсяму так званаму цывілізаванаму сьвету будзе глыбока напляваць на чужое гора вялага бесталковага грамадзтва нейкай там «беларашы».

Сёньня, цяпер, першачарговая задача — адстаўка антынацыянальнага недзеяздольнага ўрада. Трэба пры гэтым мець на ўвазе, што пракамуністычная большасьць Вярхоўнага Савета абапіраецца, перш за ўсё, на ўрад і залежная ад яго. Адстаўка ўраду аблегчыла выбары.

Да выбараў павінен дзейнічаць пераходны кааліцыйны ўрад некамуністычных антыімперскіх сілаў. Трэба разумець, што ў Беларусі не можа існаваць кааліцыйны ўрад з удзелам камуністаў. Гэта супярэчыць прыродзе рэчаў. Камуністы на Беларусі выступалі і выступаюць супраць існаваньня беларускай дзяржавы і яе незалежнасьці, супраць беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня, дзяржаўнасьці беларускай мовы, супраць нацыянальнай гісторыі, школы і ўвогуле супраць усяго беларускага. Гэта пачварны прыклад, адзіны ў сваім родзе. Не могуць кіраваць дзяржавай людзі, што выступаюць супраць дзяржавы. Дзейнасьць такіх арганізацыяў у нармальным грамадзтве недапушчальная і павінна быць забаронена.

Хачу падкрэсьліць, што нельга канчаткова змарнаваць шанс, які зноў адкрывае Беларусі гісторыя. Мы павінны зьвярнуцца да здаровага сэнсу ўсіх нашых некамуністычных дэпутатаў, да ўсяго нашага незакранутага камуністычнай хваробай грамадзтва. Антынацыянальны ўрад згубіў права на ўладу. Далейшае яго існаваньне — небяспечнае для грамадзтва, для чашай дзяржавы.

**(Друкуецца з скарачэньнямі).**

## «Чырвоныя» за СССР і сацыялізм

Для большасьці менчукоў 7 лістапада быў звычайным выхадным днём, некаторыя нават забыліся, што ён на працягу 74 гадоў быў сьвяточным. Але ж ёсьць людзі, для якіх ён застаўся «чырвоным днём каляндара». Члены ПКБ, ДСПС, Саюза афіцэраў, пераважна пенсіённага ўзросту і іншых пракамуністычных арганізацый правялі ў парку імя М. Горкага мітынг. Перад гэтым яны, ня маючы дазволу ўлад, прыйшлі на плошчу Незалежнасьці, дзе пад музыку духавога аркэстра ўсклалі кветкі да помніка Леніну, сьпяваючы рэвалюцыйныя песьні, прайшлі па праспэкту Ф. Скарыны.

У парку яны зьнялі са слупа гэрб «Пагоня», дэманструючы гэтым сваю непавагу да дзяржаўных сымболяў Беларусі.

Перад прысутнымі на мітынгу, які працягваўся паўгадзіны, выступілі лідэры ПКБ. Яны патрабавалі аднаўленьня СССР, упершыню абвінавацілі дэпутацкі корпус Вярхоўнага Савета у здрадзе і запатрабавалі замены ўрада і перабывараў парлямanta, спадзяючыся перамагчы на іх.

У канцы мітынга «чырвоныя» прынялі рэзалюцыю, у якой заявілі аб адданасьці ідэалам сацыялізма, заклікалі аб ´яднацца супраць дыктатуры (якой? — А. Д.), патрабавалі вярнуць рэспубліку на сацыялістычны шлях развіцьця грамадзтва, зрабіць 7 лістапада ўсенародным сьвятам.

**А. Д.**

## Камуністычны мітынг

7 лістапада на плошчы імя Леніна адбыўся мітынг, зарганізаваны Партыяй камуністаў Беларусі і прысьвечаны 76-м угодкам кастрычніцкіх падзей, якія адбыліся ў Расеі ў 1917 годзе.

Як звычайна, сабралася купка пэнсіянэраў з чырвонымі сьцягамі, партыйныя дзеячы й нешматлікія зявакі. Ізноў ганілі Ельцына, Шушкевіча, БНФ, пагаравалі за аднаўленьне СССР, КПСС і разышліся.

Дарэчы, узмацняльнікі ўстанаўліваў сам начальнік гарнізоннага Дома афіцэраў маёр Латышаў, а замест нарада міліцыі прысутнічаў гэнэрал Гудзей. Праўда, у цывільным. Затое — з сваім намесьнікам.

**(Ір).**

 







# ГУТАРКІ

## Злачыннасьць павялічваецца, але да тэрарызму пакуль не дайшло

**У памяшканьні Дома афіцэраў у Горадні адбылася сустрэча вэтэранаў з кіраўнікамі праваахоўных органаў вобласьці. У ёй узялі ўдзел пракурор вобласьці — Цярэшчанка, намесьнік начальніка УУС аблвыканкама п-к Радзюкевіч і начальнік контрразведкі УКДБ па Гарадзенскай вобласьці — п-к Лятун.**

Першым, з дакладам аб крымінальнай сітуацыі ў горадзе і вобласьці выступіў пракурор Цярэшчанка. Ён далажыў, што абстаноўка ў вобласьці зараз складаная. Больш таго, па колькасьці злачынстваў наша вобласьць на першым месцы ў Беларусі. Прычым, як адзначыў пракурор, зьявіліся новыя формы злачыннасьці: рэкэт, карупцыя, арганізаваная злачыннасьць, вырасла колькасьць асабліва цяжкіх злачынстваў: насільле, забойствы і г. д., а таксама турбуе і тое, што вельмі вялікі працэнт злачынстваў зьдзяйсьняе моладзь і падлеткі.

У сваім дакладзе пракурор Цярэшчанка звярнуў увагу на найбольш значныя прычыны росту злачыннасьці, сярод якіх назваў: дрэнную дысцыпліну, паслабленьне патрабавальнасьці, нізкі ўзровень маралі і культуры насельніцтва, а таксама сумнавядомы Гарадзенскі рынак, празрыстую мяжу з Польшчай і Летувой, з-за якіх вобласьць ператварылася ў перавалачную базу.

Пракурор рашуча выказаўся супраць спэкуляцыі, якую зараз называюць прадпрыймальніцтвам і падкрэсьліў, што прызнае толькі бізнэс у наступнай форме: зрабі сам — а потым прадавай.

Палкоўнік Радзюкевіч у сваім дакладзе спыніўся на цяжкасьцях, з якімі зараз сутыкаецца міліцыя. Выказаў недаўменьне тым, на чым зараз выхоўваецца моладзь: толькі на відыякліпах. Маўляў, у яго час было зусім па-іншаму. Дадаў, што падлеткамі ўвогуле, акрамя яго ведамства, ніхто не займаецца. Адказаў на розныя пытаньні. Паведаміў, што будзе дазволена мець газавую зброю, якая павінна рэгістравацца згодна закону.

На трохі дзіўнае пытаньне, ці дапамагае міліцыі зараз царква, адказаў, што вялікай дапамогі няма, але тое, што існуюць нядзельныя царкоўныя школы й дзеці не бадзяюцца па вуліцах — гэта добра. А самае галоўнае, каб тыя людзі, якія сёньня замальваюць там свае грахі, не рабілі іх заўтра.

Палкоўнік Лятун не рабіў даклада. Перапрасіў за свайго начальніка, які вельмі заняты й ня здолеў прыйсьці на сустрэчу, сказаў, што адкажа на пытаньні. Вось некаторыя яго адказы:

— На сёньняшні дзень мы ня маем якіх-небудзь дадзеных аб тэрарыстычнай дзейнасьці на тэрыторыі вобласьці.

— У дзень абраньня новага старшыні вабласнога Савету да яго адразу прыстаўлена ахова.

— За апошнія тры гады ў нас выяўлена два чалавекі, якія спрабавалі актыўна супрацоўнічаць з Заходнімі спэцслужбамі: у Смаргоні і Горадні.

— Зараз створаны ўсе ўмовы, і засылаць да нас нейкіх шпіёнаў папросту непатрэбна. Едуць хто хоча, і бываюць, дзе хочуць. Дарэчы, на днях у Горадню павінна прыехаць дэлегацыя з Францыі, дамаўляцца аб стварэньні турыстычнага маршрута, па якім некалі праходзіў Напалеон. Вось і будуць зьбіраць інфармацыю.

— Раней мы даволі блізка супрацоўнічалі з польскімі спэцслужбамі. Зараз на нашы запрашэньні яны не адказваюць. Рабіце вывады самі.

— Аб забойстве Арцымені ходзіць шмат чутак і ня больш таго. На карту пастаўлены ўсе нашы лепшыя сілы. Калі сьледзтва скончыцца, ніхто таямніцы з гэтага рабіць ня будзе.

— Пра тое, што Домаш даводзіцца сваяком сям 'і Арцымені, нам нічога не вядома...

Найболей пытаньняў было да вабласнога пракурора. Шмат з іх паўтаралася, асабліва тыя, што датычаць забойства Арцымені. Пракурот заявіў, што пакуль ідзе сьледзтва, ён таксама нічога ня мае права паведамляць. Што ж датычыць справы Гіруця, зазначыў, што займаліся ёю доўга, і менавіта па прадстаўленьні пракуратуры той быў вызвалены ад займаемай пасады. Крымінальная справа ў адносінах яго сына ўжо закрыта — суд вынес апраўданьне. Аднак, пракуратура настаяла на тым, каб яе яшчэ раз перагледзеў Вярхоўны суд.

Нечаканым у канцы было пытаньне да пракурора: ці караецца ў нас нацыянальная варожасьць? Адзін з вэтэранаў паабяцаў прывесьці канкрэтныя факты. Маўляў, у раёне возера Юбілейнага яму даводзілася чуць: «Русские, вон из Беларуси», на што нават зала са сьмехам замахала рукамі.

... У самым канцы падняўся нехта Алексін, зьневажаючы кіраўніка парляманту Беларусі: «Что там это Стасик Шушкевич хочет урезать в два раза наши пенсии... Пусть товарищ Привалов поговорит с этим Стасиком».

Дарэчы, ні пракурор вобласьці, ні намесьнік УУС аблвыканкама, ні начальнік контрразведкі не зрабілі ваяўнічаму пэнсіянэру нават заўвагі за яго зьняважлівы тон у адносінах да кіраўніка дзяржавы.

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

## Зямлёй павінен валодаць гаспадар

**Днямі да нас у рэдакцыю завітаў фэрмэр з вёскі Азёры Гарадзенскага раёна М. Салаўёў. Ён распавядаў аб сваіх клопатах і выказаў жаданьне падзяліцца думкамі з чытачамі «Пагоні». Маўляў, праблемам вёскі замала надае ўвагі ня толькі ўрад нашае краіны, але й прэса недастаткова аб гэтым піша.**

**Яго аповяд занатаваў наш карэспандэнт М. Карневіч.**

Яшчэ напачатку 80-х гадоў я працаваў у калгасе «Перамога» Гарадзенскага раёна брыгадзірам на будоўлі. Жыў, амаль як у горадзе, гаспадаркі ня трымаў, хоць сам вырас на зямлі. Грошай хапала, а значыць і патрэбы ня было. Але нешта надумалі нашы калгасныя «спэцыялісты», што занадта шмат мы атрымліваем і, як гэта водзіцца, зрабілі новыя нормы — заробак скараціўся, а жыцьцё гэтым часам пачало даражэць.

Паканфліктаваў я напачатку, а потым кінуў і вырашыў, што займуся гаспадаркай. Набыў кароў, сьвіней, збудаваў хлявы, зрабіў нават самаробны трактар. Напачатку закупаў кармы ў калгасе, карміў жывёлу, здаваў на мяса й меў нядрэнны прыбытак. Усяго трымаў трыццаць галоў.

Аднак хутка з кармамі зачаліся праблемы й я вырашыў ісьці да старшыні калгаса, каб далі мне кавалак зямлі. Тады я яшчэ й ня ўяўляў, што ўсе мае сапраўдныя клопаты пачнуцца менавіта з зямлі, на якой вырас сам, якая карміла й гадавала ўсіх маіх продкаў. І ня думаў, што здолею зразумець, што толькі яна, зямля, здольная выратаваць увесь мой народ і маю краіну ад бядоты і жабрацтва, калі толькі яна па-сапраўднаму стане народнай і вернецца да свайго сапраўднага гаспадара. Але гэта будзе пазьней.

У калгасе мне адказалі, што вольнай зямлі няма, маўляў, шукай сам, а мы паглядзім. Адшукаў кавалак заросшага хмызьняком балота, напісаў заяву; але зноў адмовілі,— няма пакуль закону. Урэшце дамогся, узяў паўтары гэктары ў арэнду.

У 1990 годзе сабраў першы ўраджай бульбы, і гэта было ўжо падспор 'е. Адчуваў, што справы ідуць нядрэнна. Карміў жывёлу, здаваў малако ў калгас, мяса вазіў на рынак. Выгодна й мне й дзяржаве. Урэшце пачалі зьяўляцца аднадумцы, зацікавіліся маёй спрвай, праўда, большасьць са старэйшых людзей па-добраму казалі, што нічога з гэтага не выйдзе, адбяруць зямлю ў любы момант, і застанешся без нічога.

А я вырашыў і далей пашыраць гаспадарку. Зноў пайшоў за зямлёй. Цяпер ужо не адзін, знайшліся яшчэ ахвотныя на фэрмэраў.

Пасьля доўгіх мытарстваў прапанавалі мне ў 1991 годзе надзел за сем кіламэтраў ад вёскі ў лесе, дзе адзін пясок. І сказалі ўрэшце, калі гэтага ня хочаш, іншага ня будзе. Зноў давялося пагаджацца. Апрацаваў, засеяў і засадзіў яшчэ паўтара гэктара ячмянём і 60 сотак бульбай. Спадзяваўся, што нарэшце па-сапраўднаму падыму сваю гаспадарку. Аднак 1992 года быў няўдалы — засуха. Страціў нават тое, што засеяў і засадзіў. Пачала рушыцца мая гаспадарка. Запрасіў спэцыялістаў з райвыканкама, каб зрабілі заключэньне наколькі прыгодны мой надзел. Вынік сумны: падняць гаспадарку на маёй зямлі немагчыма.

Пачаў зноў шукаць праўды, дамагацца замены надзелу. Заявіў, што ня стану ў гэтым годзе апрацоўваць пустыя землі. Пасялковы Савет і раённыя спэцыялісты вынясьлі свой прысуд: зямлю адабраць, праўда, пазьней райвыканкам адмяніў гэтае рашэньне.

Напісала заяву на зямлю мая маці, а ў калгасе адказалі, што адбяруць надзел у сына й могуць аддаць ёй, бо іншае няма.

Так сумна пакуль выглядае мая гісторыя. Зараз я практычна бяз гаспадаркі, хоць маю забудовы, такую-сякую тэхніку, вопыт і жаданьне.

Увесь мой гэты пераказ даволі агульны, без канкрэтных імёнаў і прозьвішчаў, без канкрэтных слоў, якія давялося пачуць ад бюракратаў. Ды й ня хачу я больш казаць аб гэтым.

Галоўнае, чым хацеў падзяліцца, тое, што за гэтыя пару гадоў я па-сапраўднаму адчуў, што значыць быць гаспадаром і зразумеў, і што толькі прыватная ўласнасьць на зямлю здолее зрабіць нас людзьмі нармальнымі, накарміць наш народ. І зараз я цалкам перакананы ў тым, што наш урад і Вярхоўны Савет вядуць антынародную палітыку, не даючы сабе адказу ў тым, што яны робяць.

Я хачу выказаць да іх свае прапановы.

Найперш, неабходна правесьці абмер усяе зямлі ў вабласьцях і раёнах і вызначыць памеры, якія магчыма перадаць сялянам ва ўласнасьць, і замацаваць гэта адпаведным законам. Зямля павінна перадавацца ў спадчыну, але ня прадавацца. Той, хто жадае, можа аб 'ядноўвацца ўкаапэратывы й асацыяцыі для сумеснага вядзеньня гаспадаркі. Абавязкова даць магчымасьць гараджанам апрацоўваць зямлю, толькі ня так, як гэта робіцца зараз, калі надзелы ім выдзяляюць за пяцьдзесят кілямэтраў ад горада.

І яшчэ. Няможа быць ніякай гаворкі аб тым, каб прадавць ці даваць у арэнду зямлю іншаземцам. Зямля можа быць уласнасьцю толькі грамадзяніна Беларусі.

## Абяцанага чакаюць тры гады

Ужо трэці год Беларусь зьяўляецца сувэрэннай дзяржавай, тым не менш грамадзяне рэспублікі і на сёньняшні дзень карыстаюцца пашпартамі няіснуючай краіны, што вельмі зьдзіўляе замежнікаў. Хаця Вярхоўны Савет абавязаў урад правесьці пэўныя мерапрыемствы і ўнесьці прапановы на разгляд Прэзыдыума парляманта да 1 сьнежня 1991 года, але ж гэта было не зроблена. Планавалася, што пашпарты ўзору будуць выдаваць з пачатку бягучага года. Аднак з-за адсутнасьці палажэньня аб ім і тэхнічнай базы для іх вырабу і па іншых прычынах тэрмін быў адкладзены.

І вось, нарэшце, амаль усё неабходнае для правядзеньня пашпартызацыі зроблена. Саўмін зацьвердзіў палажэньне аб новым пашпарце. За мяжой набыта абсталяваньне для друкаваньня дакумэнтаў. Урад выдзеліў таксама 667 мільёнаў рублёў і 6,5 мільёнаў даляраў на правядзеньне пашпартызацыі. Таму з першай паловы 1994 года першыя грамадзяне Беларусі атрымаюць пашпарты новага ўзору, а ўвогуле, працэс разьвітаньня з «сярпаста-малаткастымі» насельніцтва будзе ажыцьцяўляцца на працягу прыкладна двух гадоў.

Новыя пашпарты будуць адрозьнівацца ад цяперашніх. Іх можна будзе выкарыстоўваць для паездак за мяжу. Запісы ў іх будуць рабіцца на беларускай, ангельскай і расейскай мовах. Дадзеныя з пашпарту можна будзе счытваць з дапамогай кампутара. Не будзе ў ім запісаў аб нацыянальнай прыналежнасьці ўладальніка. Але ж застаецца ў новым пашпарце графа «месца жыхарства». Па жаданьню ў ім можа быць зроблены запіс аб групе крыві ўладальніка. Атрымаюць пашпарты людзі, якія дасягнулі 16-гадовага ўзросту і зьяўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, у 25-45 гадоў плянуецца іх замена на новыя.

**Д. А.**

## На вакацыі да Нямеччыны

Суполкай лютэран-эвангэлістаў Горадні рыхтуецца турыстычная група з ліку дзяцей беларуска-амэрыканска-нямецкага ліцэя, які месьціцца на базе СШ № 10 для паездкі ў час зімовых канікулаў да Нямеччыны.

Пад час наведваньня Гэрманіі гарадзенскія ліцэісты будуць вывучаць маркэтынг, справаводзтва й асвойваць кампьютар.

## Скарачаецца ахова

З лістапада бягучага года, на гарадзенскім камбінаце будаўнічых матэрыялаў пачалі скарачаць ахову. Гэты крок кіраўніцтва камбіната вымушаны, бо ўжо больш за месяц некалькі вытворчых цахоў закансэрваваны і ахоўваць іх няма сэнсу.

## Вандроўнікі на фурманках

Незвычайныя вандроўнікі зьявіліся ў вёсках Слонімскага, Зэльвенскага і Карэліцкага раёна Гарадзеншчыны. Гэта вандруюць пацярпеўшыя ад летняга навадненьня палешукі з мэтай набыцьця ў сялян тоны-другой бульбы на насеньне.

**Г. У.**

 

